

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World.
Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

№ 480 Студзень 2003 г.
Год выданьня 53



## ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 2003 ГОДУ ЖАДАЕМ УСІМ НАШЫМ ЧЫТАЧАМ!

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

ПРЭЗЫДЫЮМ



24-га сьнежня 2002 г.

### КАЛЯДНАЕ ВІНШАВАНЬНЕ

Дарагія мае браты й сёстры беларусы!

Вітаю вас з гэтым цудоўным Калядным Сьвятам і жадаю, каб нованароджанае Божае дзіцятка прынесла і ў вашыя хаты шмат радасьці, шчасьця і любові ў гэты сьвяточны дзень. Думкамі я сьвяткую яго з усімі вамі.

Каляды - гэта сьвята сямейнае, а наш народ добра ведае сэнс слова "сям'я". Нашай любові да бацькоў, да нашых дзетак, да братоў і сёстраў няма канца. Памятаем мы пры традыцыйна накрытым стале на Куцьцю і нашых адыйшоўшых дзядоў, сяброў выказваем нашую любоў і павагу каляднымі прывітаньнямі. Але сям'ёю нашаю ёсьць таксама і ўвесь беларускі народ.

Тыя з нас, што далёка ад Бацькаўшчыны, просяць Госпада кожную нядзелю словамі Натальлі Арсеньневай, каб "над Беларусяй ціхай і ветлай" паслаў "праменьні свае хвалы":

Дык у гэты Калядны дзень жадаю з глыбіні сэрца нашай вялікай беларускай сям'і дабрабыту і еднасьці, шчасьця, веры ў будучыню і гордасьці нашай спадчынай.

Жадаю, каб зьяднаныя любоўю да нашага краю мы знайшлі ў сабе сілы пераджыць гэтыя цяжкія часы й, нарэшце, адрадзіць нашую вольную і дэмакратычную дзяржаву, Беларускую Народную Рэспубліку.

Жыве Беларусь!

*Івонка СУРВІЛЛА*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

## РЭЖЫМ ЛУКАШЭНКІ РЫХТУЕ КАНГРЭС БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА

Напачатку сьнежня была распаўсюджаная інфармацыя пра падрыхтоўку т. зв. Кангрэсу Беларусаў Замежжа. З інфармацыі вынікала, што прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Чэхіі сустрэліся з другім сакратаром амбасады Рэспублікі Беларусь (чытай: рэжыму Лукашэнкі) сп. Казловым. Ён паінфармаваў пра тое, што ў траўні 2003-га году ў Менску зь ініцыятывы ўладаў плянуецца вышэй названы Кангрэс, і прапановы пра ўдзел у ім накіроўваюцца ва ўсе суполкі беларускай дыяспары. Сп. Казлоў, прамаўляючы па-беларуску, заклікаў "наладжваць супрацоўніцтва на падставе не таго, што нас разьядноўвае, а на падставе таго, што нас аб'ядноўвае". Гэтая вестка, а таксама інфармацыя пра гэтую сустрэчу д-ра Ганны Бартуль і сп. Сяржука Сокалава-Воюша даюць падставы для наступных разважаньняў.

Першае - нідзе не было паведамлена нічога канкрэтнага пра мэты Кангрэсу. Прадстаўнікам дыяспары было прапанавана адказаць, ці яны "згодныя ўзяць удзел, і якія тэмы яны хацелі-б прадставіць для разгляду на Кангрэсе". Гэта наводзіць на выснову, што факт удзелу дыяспары ў Кангрэсе для беларускіх уладаў больш важны, чым ягоны парадак дня, што гэта проста спроба скарыстаць дыяспару аднабакова, для стварэньня ўражаньня аб падтрымцы ёю беларускага рэжыму.

Другое - якія-б не былі афіцыйна названыя мэты Кангрэсу, якіх абяцаньняў не давалі-б прадстаўнікі рэжыму адносна ўмоваў удзелу дыяспары, пры цяперашнім рэжыме гэта ня будзе мець істотнага значэньня. Добра ведама, што Лукашэнка і ягоныя памагатыя не трымаюць сваіх словаў і ня дбаюць пра нават элемэнтарныя нормы прыстойнасьці й цывілізаванага захаваньня. Інфармацыя імі заўсёды падаецца ў скажоным і перакручаным выглядзе, як у нядаўнім выпадку з амэрыканскімі кангрэсмэнамі ў Менску.

Трэцяе - да сваіх паслугаў рэжым Лукашэнкі мае шэраг арганізацыяў расейскамоўных выхадцаў зь Беларусі (пераважна на пост-савецкім абшары), што падтрымліваюць усе крокі й дзеяньні рэжыму. Шляхам нескладаных маніпуляцыяў нацыянальна-дзяржаўніцкая дыяспара, напэўна, апынецца на Кангрэсе адціснутаю ў кут сэрвілісцкімі пра-маскоўскімі прадстаўнікамі, і будзе толькі прысутнічаць на прыняцьці выгадных рэжыму рэзалюцыяў, гэтым санкцыянуючы іх.

І апошняе - рэжым Лукашэнкі, слушна называны ў вольным сьвеце апошняю дыктатураю ў Эўропе, ня ёсьць свабодна абраным легітымным прадстаўніцтвам беларускага народу. Гэты рэжым гандлюе незалежнасьцю Беларусі, зачыняе беларускія школы, беларускія газэты, разганяе рэдакцыі часапісаў, арыштоўвае журналістаў, праводзіць татальную русыфікацыю, працягвае парушаць правы чалавека, зьдзекваецца з дэмакратычных правоў і свабодаў. На сёнешні дзень няма амаль ніводнай пазыцыі, па якой рэжым і беларуская дыяспара мелі-б блізкія погляды.

У сьвятле вышэй сказанага зусім лягічным ёсьць заклікаць усе беларускія арганізацыі замежжа, а таксама індывідуальныя асобы - ня мець нічога супольнага з плянаванаю рэжымам імпрэзаю пад назваю "Кангрэс Беларусаў Замежжа".

У сёнешняй сытуацыі будзе разумна ўстрымлівацца ад асабовых кантактаў з прадстаўнікамі рэжыму, настойваючы на дасыланьні інфармацыі ў пісаным выглядзе - праз пошту або е-мэйл.

*Віталь ЗАЙКА*

# 82-я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ Ў ПЭРЦЕ (ЗАХОД. АЎСТРАЛІЯ)

Зчаргі гэта быў ужо 51-ы раз, як беларусы ў Пэрце і ваколіцах адзначалі ўгодкі збройнага змаганьня случакоў. Між прысутнымі й гасьцямі, апрача айца Ўладзімера і матушкі Ірэны быў сьвятар УПЦ Анатолі. Ня гледзячы, што гэта быў памінальны дзень, людзі былі вельмі радыя з сустрэчы. Пасьля Божае службы, якую адправіў сьвятар БАПЦ а. Уладзімер, адыграньнем нацыянальнага гімну пачалася ўрачыстасьць. Старшыня БА ў Заходняй Аўстраліі сп. Міхась Раецкі-малодшы павітаў прыбыўшых, падзякаваў за выкананьне грамадзкага абавязку і даў слова сп. Міхасю Раецкаму, які зачытаў Зварот да Беларускага народу і прывітаньні ад Старшыні Рады Беларускай народнай Рэспублікі сп-ні Івонкі Сурвілла ды сакратара Фэдэральнае Рады Беларускіх арганізацыяў Аўстраліі сп. П. Дуброўскага-Гуза.

Па ангельску з дакладам на тэму Слуцкага Збройнага Чыну высупіў сп. Міхась Раецкі-малодшы, а па-беларуску даклад зрабіў сп. Міхась Раецкі. Абодвыя дакладчыкі былі сустрэтыя бурнымі воплескамі.

Урачыстасьць працягвалася пачастункам і слуханьнем песьняў гурту "Унія". За падрыхтаваньне пачастунку вялікая падзяка належыць матушцы Ірэне, сп-ям З. і М. Ёлаб і Марыі Мароз. Калі кагосьці з сяброваў, браўшых удзел у падрыхтоўцы, не згадаў, ветліва прашу прабачэньня.

Беларуская радыёперадача на мясцовай радыёстанцыі 27-га лістапада была поўнасьцю прысьвечаная 82-м угодкам Слуцкага Збройнага Чыну.

**РМ**

# ПІКЕТ У БЭЛЬГІІ




Беларускі цэнтар у Бэльгіі 10-га сьнежня правеў пікет ля беларускае амбасады, прысвечаны Дню правоў чалавека. Нягледзячы на холад, у Бруксэль зьехаліся беларусы з розных гарадоў Бэльгіі, каб выказаць свой пратэст супраць існуючай у Беларусі дыктатуры Лукашэнкі.

Бельгія зьяўляецца краінаю,дзе месьцяцца шмат міжнародных структураў, Эўрапарлямант, НАТО ды інш. Таму Беларускі цэнтар за два тыдні да правядзеньня акцыі распаўсюдзіў прэсс-рэлізы з краткім маніторынгам нарушэньняў правоў чалавека ў Беларусі.

Пад бел-чырвона-белымы сьцягамі на пікеце прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх партыяў, якія ўваходзяць у Беларускі цэнтар, БНФ, АГП, КХП-БНФ. Гэта Лазарчук, Каляга, Курлюк, Навіцкі, Мацюшына, Раманюк, Брэль, Раманаў, сем'і Шаучэнкаў, Нагорнавых, Маталыцкіх. Прысутнічаў беларускі сьвятар айцец Майсейчык.

Філіял Беларускага цэнтру ў Галяндыі таксама правеў пікет ля беларускае амбасады ў Гаазе, у якім узялі ўдзел 10 чалавек.

***Аляксандр КУРЛЮК***

***На здымку ўдзельнікі пікету ў Бруксэлі.***

# СЬВЯТА ЯЛІНАК У НЬЮ БРАНСЎІКУ

Унядзелю 1-га сьнежня ў Музэі Мадзярскае Фундацыі ў Нью Брансўіку адбылося ўрачыстае адкрыцьцё 14-га штогадовага фэстывалю ялінак. На працягу ўжо больш як васьмі гадоў сярод ялінак ад розных этнічных групаў красуецца беларуская ялінка. Сёлета акрамя Беларусі ў фэстывалі прадстаўленыя традыцыі Даніі, Эстоніі, Нямеччыны, Грэцыі, краінаў Лацінскае Амэрыкі, Мадзяршчыны, Італіі, Латвіі, Шатляндыі, славянскіх краінаў, Швэцыі й Ангельшчыны.

Традыцыю ўдзелу ў гэтым фэстывалі паклала мастачка Галіна Русак, якая імкнулася пашырыць веды пра Беларусь і беларускія традыцыі ў заходнім сьвеце. Праз гады ялінку ўпрыгожвалі актывісты Беларуска-Амэрыканскага Адукацыйна-Культурнага Таварыства, а сёлета гэта зрабілі сябры мясцовага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Фэстываль працягнецца да 26-га студзеня 2003-га году. Для жадаючых наведаць фэстываль падаем адрас:

***Museum of American Hungarian Foundation 300 Somerset Street New Brunswick, NJ***




Музэй адчынены ад 11-й гадзіны раніцы да 4-й папаўдні.

***Сяргей ТРЫГУБОВІЧ***

# "НАЙНІЖЭЙШЫ ГАТУНАК ПАЛІТЫКІ"

## - сказаў амэрыканскі кангрэсмэн пра Менск.

Лукашэнкавы дыпляматы за мяжою пытаюцца ў прадстаўнікоў дыяспары, ці ня згодныя яны ўзяць удзел у "кангрэсе беларусаў сьвету". Беларускі ўрад мае намер правесьці "кангрэс" ў 2003-м годзе. Той, хто шукае адказу на пытаньне, ці падтрымваць такую ініцыятыву, хай паглядзіць, як абышлася лукашэнкаўская прапаганда з амэрыканскаю дэлегацыяй, якая наведала Менск на пачатку сьнежня летась.

У складзе дэлегацыі былі кангрэсмэны-рэспубліканцы, Курт Уэлдан з Пэнсыльваніі й Роска Бартлет з Мэрыленду, сэнатар-рэспубліканец Конрад Бэрнс з Мантаны, адзін спэцыяліст вайсковых справаў ды тры бізнэсмэны. Паехалі яны ў Менск на прапанову маскоўскіх палітыкаў. Мэтаю іхнага візыту было паспрыяць "нармалізацыі" амэрыканска-беларускіх дачыненьняў. Ачольваў дэлегацыю кангрэсмэн Уэлдан.

Дэлегатам наладзілі ў Менску 3-га сьнежня абед з прэзыдэнтам. Абед трываў чатыры гадзіны. На наступны дзень адбылася яшчэ гадзінная гутарка з Лукашэнкам. У часе гутарак амэрыканцы гаварылі пра даволі далёкасяжныя пляны супрацоўніцтва зь Беларусьсю, але таксама сказалі беларускаму лідэру, што пры цяперашнім стане рэчаў у Беларусі "Кангрэс ЗША ня мае намеру наладжваць сувязі зь нелегітымным /беларускім/ парлямэнтам". Яны зазначылі, што толькі правядзеньне свабодных парлямэнцкіх выбараў прывядзе да палепшаньня дачыненьняў паміж ЗША і РБ. Замежныя госьці сказалі таксама, што Менск павінен дазволіць нармальную дзейнасьць прадстаўніцтва Арганізацыі па Бясьпецы й Супрацоўніцтву ў Эўропе (АБСЭ), якое Лукашэнка выжыў поўнасьцю зь Беларусі пад канец мінулага году.

Зь якім-жа абурэньнем чыталі амэрыканцы наступнага дня камунікат беларускае прэсавае службы, у якім казалася: "Галава амэрыканскай дэлегацыі пацьвердзіў, што прэзыдэнт Беларусі быў абраны сумленным дэмакратычным шляхам і ачольвае новы дух у разьвіцьці краіны". ("The head of the U.S. congressional delegation confirmed that the president of Belarus was elected by honest and democratic means and is leading a new spirit of development in our country".)

Мала таго, беларускае тэлебачаньне падало, што замежныя наведнікі-заканадаўцы паабяцалі зьвярнуцца да амэрыканскага ўраду, каб той зьняў абмежаваньні на замежныя падарожжы Лукашэнкі й яговых сілавых міністраў. Такія абмежаваньні налажылі на беларускае лідэрства заходняэўрапейскія дзяржавы й Злучаныя Штаты як санкцыю за пагвалтаваньне правоў чалвека й выгнаньне зь Беларусі прадстаўніцтва АБСЭ.

**(Я.З.)**

 



# Беларусь за месяц

## КРЫЗЫС У БНФ

14-га сьнежня на паседжаньні Сойму БНФ намесьнік старшыні партыі Юры Хадыка зьвінаваціў Вячаслава Сіўчыка за дэструктыўную дзейнасьць і спробы стварыць новую структуру і прапанаваў выключыць таго з шэрагаў арганізацыі. Сіўчык у адказ заявіў, што сёнешняе кіраўніцтва Фронту нясе адказнасьць за развал арганізацыі, зазначыўшы, што БНФ і Кансэрватыўна-хрысьціянская партыя БНФ мусяць аб'яднацца, бо паасобку яны слабыя. Сіўчык мае рацыю, абодва крылы БНФ страчваюць калісьці лідэрскія пазыцыі ў апазыцыі.

Цікава тое, што шэсьць з палovою гадоў таму, пасьля Чарнобыльскага шляху-96, Сіўчык і Хадыка разам трымалі галадоўку ў менскай "валадарцы". Цяпер-жа яны знаходзяцца па розныя бакі барыкадаў.

## КХП-БНФ СУПРАЦЬ

Беларуская апазыцыя намерылася ўзяць удзел у мясцовых выбарах, якія адбудуцца 2-га сакавіка 2003-га году. А вось КХП-БНФ заявіла пра іх байкот. Сваё рашэньне кіраўніцтва партыі матывуе тым, што разам з выбарамі ўлады рыхтуюць рэфэрэндум аб зьменах у канстытуцыі, якія дазволяць прэзыдэнту абрацца на трэці тэрмін. І толькі байкот выбараў сарве рэфэрэндум. У якасьці прыкладу, КХП-БНФ прыводзіць байкот парлямэнцкіх выбараў 2000-га году. Але цяжка сьцьвярджаць, што той байкот удаўся.

## ІВАШКЕВІЧ НА "ХІМІІ"

13-га сьнежня рэдактару газэты "Рабочы" Віктару Івашкевічу мусілі выдаць прадпісаньне на выезд да месца абмежаваньня волі. Іншымі словамі, мусілі куды-небудзь выслаць на "хімію". Намесьніку старшыні Партыі БНФ дастаўся ня самы горшы варыянт - яго накіравалі ў Баранавічы. Усяго толькі тры гадзіны на электрычцы зь Менску. А маглі накіраваць так, каб гадзін восем цягніком дабірацца, а потым пешкі праз лес паўдня. Так зрабілі ў адносінах да жыхара Горадні Паўла Мажэйкі, якога "пасялілі" ў Жлобіне.

А 16-га сьнежня ў штаб-кватэры БНФ прайшлі провады Віктара Івашкевіча. Адна з кіраўнічак "Хартыі-97" Людміла Грознова ўручыла журналісту і палітыку прэмію "За асабістую мужнасьць", заснаваную гэтаю грамадзкаю ініцыятываю. А сябры на разьвітаньне здарылі трохлітровы слоік з гуркамі.

Ужо на наступны дзень Івашкевіч уладкаваўся на працу, яму дазволілі быць кур'ерам у мясцовай недзяржаўнай газэце "Інтэкспрэс". Начальнік мясцовай папраўчай установы даў згоду.

Сп. Івашкевіч аптымістычна глядзіць на сваё зьняволеньне, кажучы, што ў Баранавічах шмат грамадзкіх арганізацыяў, моцныя дэмакратычныя асяродкі, ды й народ сьведамы. Нават суседзі па пакоі яшчэ да прыезду ведалі, хто ён. Журналіст плянуе аднавіць выданьне "Рабочага".

## ПРЭМІІ "ХАРТЫІ-97"

Грамадзкая ініцыятыва "Хартыя-97" прысудзіла пятую нацыянальную прэмію "За асабістую мужнасьць", якая ўручаецца пачынаючы ад 1998-га году грамадзкім дзеячам, палітыкам, журналістам. Сёлета яе атрымалі Зінаіда Ганчар, жонка Віктара Ганчара, Ірына Красоўская, жонка зьніклага разам з Ганчаром бізнэсоўца Анатоля Красоўскага, Сьвятлана Завадзкая, жонка былога апэратара ОРТ Зьмітра Завадзкага. Прэміяй таксама былі ўганараваныя журналісты "Пагоні" Мікола Маркевіч і Павал Мажэйка, а таксама Віктар Івашкевіч.

Прэмія была ўручаная ім асабіста 20-га сьнежня. Журналісты й каардынатарка "Хартыі" Людміла Грознова наведалі Асіповічы й Жлобін, дзе адбываюць пакараньне журналісты.

А на наступны дзень, 21-га сьнежня, Маркевіча і Мажэйку наведалі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Валеры Фралоў і Сяргей Скрабец. Яны прывезьлі ў падарунак журналістам ватоўкі. Лідэр сёнешняй апазыцыі ў парлямэнце Валеры Фралоў (ён з Горадні)заявіў, што для яго справа гонару наведаць землякоў.

Мікола Маркевіч заўважыў, што дэпутаты "палаткі"былі першымі палітыкамі, якія наведалі іх. Прыяжджалі простыя партыйцы з усіх рэгіёнаў Беларусі, але ніводны кіраўнік апазыцыі так і не прыехаў. "Кіраўніцтва толькі й умее езьдзіць па Страсбургах і Вашынгтонах і там змагацца за правы чалавека ў Беларусі".

## ДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

10-га сьнежня ў сьвеце і ў Беларусі адзначаўся Дзень правоў чалавека. У Менску на Кастрычніцкай плошчы прайшоў традыцыйны "Ланцуг неабыякавых людзей", у якім бралі ўдзел каля 250 чалавек, прайшлі таксама пікеты ў абласных цэнтрах. Было зладжана некалькі акцыяў па-за межамі Беларусі: у Брусэлі, Амстэрдаме, Варшаве, Вільні.

Найцікавей прайшла акцыя ля беларускае амбасады ў Варшаве, у якой бралі ўдзел беларускія студэнты, сябры розных партыяў, палітычныя і эканамічныя ўцекачы, а таксама мясцовыя жыхары. Пікетоўшчыкі трымалі плякаты "Дзе Ганчар?", "Дзе Завадзкі?", "Свабоду Маркевічу і Мажэйку!" Супрацоўнікі амбасады па старой завядзёнцы выклікалі паліцыю. Тая прыехала, праверыла дакумэнты і, не знайшоўшы парушэньняў, зьехала. Гэта-ж не Беларусь! Пакрыўджаныя паслы яшчэ колькі часу здымалі дэманстрантаў на відэа. Відаць, на ўсялякі выпадак.

## СТРАЙК ПРАВАЛІЎСЯ

На пачатку сьнежня лідэр страйкаму прадпрымальнікаў Валер Леванеўскі заявіў, што 19-га сьнежня пройдзе масавы папярэджальны страйк прадпрымальнікаў пад эканамічнымі й палітычнымі лёзунгамі, зь 1-га студзеня, пачнецца бестэрміновая забастоўка. Журналісты кпілі, што пачынаць зь 1-га студзеня забастоўку - вельмі слушна, бо людзі, накупляўшы прадуктаў і розных рэчаў перад Новым годам, палову студзеня на рынак ня ходзяць. Але выйшла яшчэ горш - не адбылася забастоўка і 19-га сьнежня. Страйкавала ня больш за 20% гандляроў. Выключэньне хіба склаў рынак "Паўднёвы" ў Горадні, дзе і працуе Леванеўскі. Абсалютовая большасьць прадпрымальнікаў Беларусі працавала, бо перад Новым годам самы продаж, і дзень прастою прынёс бы сур'ёзныя страты.

## ВЫЙШАЎ НОВЫ СЛОЎНІК

У Польшчы падрыхтавана фундамэнтальная праца "Беларускі хрысьціянскі рух у 20 ст. Біяграфічна-бібліяграфічны слоўнік" (на польскай мове, 560 старонак). Яго аўтары - ведамыя дасьледчыкі Юры Туронак і Юры Гарбінскі. У слоўнік уключана 230 пэрсаналіяў, якія ў той ці іншы спосаб спрычыніліся да беларусізацыі праваслаўнае царквы, каталіцкага касьцёлу, ці пратэстанцкіх плыняў. Уключаныя ў даведнік і шэраг сьвецкіх асобаў, што спрычыніліся да хрысьціянскага руху ў Беларусі (лекар і пісьменьнік Станіслаў Грынкевіч, кнігавыдавец Язэп Найдзюк, сэнатар Польскай Рэспублікі ў 1922-28 гг. Вячаслаў Багдановіч ды інш.).

Кожны біяграфічны артыкул дапаўняецца падрабязнай бібліяграфіяй. Так, бібліяграфія твораў ксяндза Уладзіслава Талочкі (1887-1942) налічвае 15 старонак. Пры падрыхтоўцы працы былі выкарыстаныя архівы Рыма, Лёндану, Варшавы, Беластоку, Вільні, Санкт-Пецярбургу, Масквы, Менску, матэрыялы, што захоўваюцца ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва (БІНіМ) ў Нью-Ёрку.

## "ДАРОГА ПРАЗ КУРАПАТЫ"

23-га сьнежня ў Палацы мастацтваў прайшла прэзэнтацыя зборніку "Дарога праз Курапаты". Гэта выпіск некалькімесячных рэпартажаў журналістаў Беларускай службы Радыё Свабода з урочышча: ад пачатку вахты, калі з-за пашырэньня аўтадарогі, узьнікла небясьпека зьнішчэньня урочышча, і да канца мінулага лета. Набралося некалькі сотняў старонак. На прэзэнтацыі выступіў другі віцэ-прэзыдэнт ПЭН-цэнтру Валянцін Тарас, які адзначыў, што і прэзэнтацыя, і выхад кнігі ў сьнежні вельмі паказальныя. Бо колькі дзён таму ў Беларусі шырока адзначаўся 85-гадовы юбілей ВЧК-ГПУ.

З залі Палаца мастацтваў вялося прамое ўключэньне ў жывы этэр вечаровае праграмы Радыё Свабоды, у якой браў удзел у Празе Васіль Быкаў, якому нядаўна чэскія ўлады далі палітычны прытулак у гэтай дэмакратычнай краіне.

## ПАМЁР СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

11-га сьнежня ня стала старэйшага беларускага пасьменьніка і паэта Сяргея Грахоўскага. Ён пражыў 89 гадоў і зьведаў усе колы пекла ГУЛАГу і быў апошнім з рэпрэсаваных у 20-50-я гады літаратараў.

## ЗЬМЕНЫ Ў ГОЛДЫНГУ

Новым старшынём голдынгу "Літаратура і мастацтва" замест выбыўшага праваслаўнага змагара з жыда-масонамі Сяргея Касьцяна прызначаная былая рэдактарка "Всемирной литературы" Таіса Бондар. Аднак наўрад беларускія пісьменьнікі пабягуць на злом галавы друкаваць свае творы ў выданьнях холдынгу. Драматург Аляксей Дудараў заявіў, што ні за якія грошы там друкавацца ня будзе.

## ЗЬНІЖКА ДЛЯ СЯБРАЎ БНФ

Жыхар Сьветлагорску прыпаркаваў аўтамабіль у неналежным месцы. Міліцыянт хацеў выпісаць шрыф у 5.000 рублёў, але даведаўшыся, што уладальнік машыны сябра БНФ, ўзяў толькі 1.500 рублёў.

## ШТРАФ ЗА СЬЦЯГ

А вось жыхарку Горадні, былую супрацоўніцу "Пагоні" Іну Салей аштрафавалі на 10 тыс. рублёў за тое, што на Дзень Волі вывесіла на гаўбцы сваёй кватэры бел-чырвона-белы сьцяг. Падстава - артыкул у Адміністрацыйным кодэксе, які прадугледжвае пакараньне за вывешваньне на сваіх балконах адзежы, што сваім выглядам псуе зьнешні выгляд будынку. Жанчына абурылася, што гарадзенцы вывешваюць галярэі майткаў і ніхто іх не штрафуе. Цікава, а калі вывесіць чырвона-зялены сьцяг, ці аштрафуюць?

## МІСІС РАСЕЯ ЗЬ БЕЛАРУСІ

Міс "Беларусь - 88" Ліка Ялінская пабралася шлюбам з прадпрымальнікам з Грэцыі й пераехала жыць у Падмаскоўе. Цяпер яна завецца Анжаліка Агурбаш. А ў сярэдзіне сьнежня яна ўзяла ўдзел і выйграла конкурс "Місіс Расея-2002". Пераможца ў якасьці прызу атрымае бясплатную паездку на Паўночны полюс.

## РЫХТУЕЦЦА СХОД

Ініцыятыўная група прадстаўнікоў беларускае інтэлігенцыі выступіла з Адозваю да беларускага грамадзтва, у якой цяперашні стан краіны характарызуецца як блізкі да крызыснага. На думку тых, хто падпісаў зварот, "сёньняшняе незадавальняючае становішча нашага грамадства склалася ў пэўнай меры і таму, што мы, інтэлігенцыя, не выконваем належным чынам сваю адказную місію. Гэтаму можна знайсці шмат тлумачэньняў, можна прывесці шэраг аб'ектыўных прычын, але ўсім нам неабходна зразумець, што ніхто не зробіць за нас справу, якую лёсам наканавана зрабіць менавіта нам".

Таму заяўнікі, сярод якіх вядомыя дзеячы беларускай культуры Анатоль Вярцінскі, Вольга Іпатава, Уладзімер Колас, Мікола Купава, Валеры Мазынскі ды інш., прапануюць для аналізу сытуацыі й распрацоўкі канкрэтных шляхоў выйсьця з крызысу склікаць у Мінску Усебеларускі сход інтэлігенцыі "Незалежная Беларусь – свабоднае і заможнае грамадзтва".

*Уласны карэспандэнт*

# МЕРКА ЭКАНАМІЧНАГА АБВАЛУ

Эканоміка Беларусі адзначае нястачу грошай. Усё часьцей людзі атрымоўваюць заработную плату натураю - прадуктамі або таварам. Выпадкі бываюць кур'ёзныя. У красавіку сёлета Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў паведаміла на сваім інтэрнэтаўскім сайце, як у глускім аддзяленьні "Беларусьбанку" (Магілёўская вобл.) некаторыя калгасы сплачвалі банку пазыку каўбасным мясам. Сплату каўбасою банк браў у бабруйскім камбінаце, куды калгаснае мяса здавалася на перапрацоўку. Банкаўскія працаўнікі сустракалі наведнікаў словамі: "Бярэце каўбасу, яна ў нас па сем тысяч, а ў краме - па дзесяць". "Набываюць каўбасу ў банку ахвотна, - казалася ў паведамленьні, - бо там яна прадаецца без гандлёвай нацэнкі".

Грашовы голад працягваецца. Газэта "Голас Радзімы" (23. X. 02) пад здымкам дзьвюх калгасьніц, якія сартуюць цыбулю, піша: "Плату яны атрымліваюць натурпрадуктам - цыбуляю".

Вось паспрабуй - купі за цыбулю (пакуль яна не згніла) патрэбную табе рэч...

# СПРАВЫ ДЭМАРКРАТЫЧНАЙ МОЛАДЗІ

Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў (БАРЦ), якая знаходзіцца ў Менску, рэгулярна паведамляе ў сваім інтэрнэтаўскім беларускамоўным бюлетэні пра дзейнасьць дэмакратычных групаў моладзі, у тым ліку Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў (ЗБС). Дзейнасьць моладзевых групаў даволі інтэнсыўная, яна праходзіць па цэлай Беларусі. Адбываюцца сэмінары, нарады, арганізоўваюцца розныя культурныя й грамадзкія мерапрыёмствы. Бароніцца свабода студэнтаў, якіх часта заціскае адміністрацыя навучальных установаў; ладзяцца сустрэчы зь незалежнымі журналістамі й дзеячамі нацыянальнае культуры. З усяго атрымліваецца даволі шырокі малюнак працэсу росту маладога пакаленьня Беларусі, пранятага справаю свабоды й абароны нацыянальных вартасьцяў.

Бюлетэнь БАРЦ (які на сёньня мае больш за 1000 падпісчыкаў) можна даставаць задарма, зьвярнуўшыся на адрас: **news@barcnews.org**

# ХЛОПЦЫ, МЫ З ВАМІ!

**Падтрымка асуджаным журналістам "Пагоні"**

1-га лістапада сёлета ў Беларусі была праведзеная акцыя "Хлопцы, мы з вамі!". Больш за 200 чалавек выслалі паштоўкі й лісты зь цёплымі словамі двум палітычным зьняволеным - журналістам зачыненай уладамі горадзенскай газэты "Пагоня" Міколу Маркевічу й Паўлу Мажэйку, якія адбываюць турэмнае пакараньне.

"Лісты, што прыходзяць да нас зь Міколам з усёй Беларусі, - сказаў Павал Мажэйка, - гэта ня толькі вялізарная маральная падтрымка. Нашыя судзьдзі, пракуроры й турэмшчыкі пачынаюць разумець, што за іхнімі дзеяньнямі сочыць пільнае вока беларускага грамадзтва".

10-га сьнежня споўнілася 100 дзён як журналісты знаходзяцца ў няволі - нагода паслаць ім слова салідарнасьці. Вось іхныя адрасы:

***Мікола МАРКЕВІЧ***
***вул. Сумчанкі 38, пакой 434***
***Магілёўская вобласьць, г. Асіповічы***
***BELARUS***

***Павал МАЖЭЙКА***
***мікраараён №3, д. 3, пакой 208***
***Гомельская вобласьць, г. Жлобін***
***BELARUS***

**(Паводле паведамленьня БАРЦ №365)**

 

# ПРА ЛЁС АРХІВУ ГЕНЭРАЛА ЕЗАВІТАВА

Падчас Другое сусьветнае вайны Беларусь згубіла ня толькі мільёны сваіх грамадзянаў, але й незьлічоныя культурныя каштоўнасьці, у тым ліку і архівы. Каштоўны прыватны архіў і бібліятэку ў Рызе меў генэрал-маёр Кастусь Езавітаў.

Пакідаючы сталіцу Латвіі ў 1944-м годзе, калі Чырвоная Армія пачала да яе падыходзіць, Езавітаў ня змог забраць з сабою свайго архіву. Ім апекавалася гаспадыня ягонага дому. Апынуўшыся ў Бэрліне на пасадзе начальніка Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Справаў Беларускай Цэнтральнай Рады (ГКВС БЦР), Кастусь Езавітаў пачаў рабіць захады, каб выратаваць свае зборы з Рыгі, якую яшчэ ўтрымлівалі нямецкія войскі. Гэтае адказнае і небясьпечнае заданьне напрыканцы 1944-га атрымалі два маладыя дэсантнікі беларускага спэцыяльнага батальёну "Дальвіц" Мікола Рулінскі й Філіп Давідчык. З рознымі прыгодамі, праз Шаўлі й Лібаву, яны здолелі дабрацца да Рыгі й з дапамогаю мясцовай настаўніцы, знаёмай Езавітава, знайсьці ягоны дом. Там яны два дні й дзьве ночы зьбіралі найбольш каштоўныя рэчы, дакумэнты, перапіску, кнігі ў тры вялікія, зьбітыя з дошак, скрыні. Іх яны й даставілі ў Бэрлін, праз Лібаву і Гданьск, хоць у вяртаньне дэсантнікаў, напэўна, ужо ніхто не верыў... Мікола Рулінскі ўспамінае: "Езавітаў нас абняў. Мы прывезьлі ягоныя асабістыя рэчы: кашулі, патэфон з пласьцінкамі, сярод якіх была і пласьцінка "Мы выйдзем шчыльнымі радамі!". Ён вельмі задаволены быў, кажа: "Хлопцы, вы з таго сьвету зьявіліся!". Падзякаваў. Праз месяц пасьля таго далі мне мэдаль беларускі "За воінскую доблесьць" зь мячамі".

У пачатку 1945-га году Беларуская Цэнтральная Рада эвакуявалася зь Бэрліну ў Гёкстэр. Пераехала туды й Галоўнае Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР, разам з усімі архівамі. Генэрал-маёр Кастусь Езавітаў яшчэ на нейкі час затрымаўся ў Бэрліне ды падтрымліваў сувязь са сваімі супрацоўнікамі празь перапіску. Яна захавалася і зь яе мы можам даведацца пра лёс архіву Езавітава.

Надлейтэнант Віталь Кажан 22-га лютага 1945-га году пісаў з Гёкстэру ў Бэрлін Кастусю Езавітаву:

"Паважаны Спадар Палкоўнік!*

Вельмі Вас, Спадару Палкоўніку, перапрашаю, што да гэтага часу нічога Вам не напісаў. Прычына гэтаму - думаў, што Спадар Палкоўнік выехаў з Бэрліна. Усе нашыя акты БКА, і як і рэчы Спадара Палкоўніка давезены і ўпарадку перахоўваюцца на месцы нашага затрыманьня, значыць у Гохтэры над Вэзэрай...". *(НАРБ, ф.383, в.1, спр.6, арк.339, рукапіс)*



Больш падрабязна пра тое, як і дзе перахоўваўся архіў Езавітава ў той час яму напісаў начальнік канцылярыі ГКВС капітан Аляксей Васіленя. У рапартах ад 23-га лютага 1945-га году чытаем: "Кіраўнік філіі ГКВС у Вэстфаліі п.палк. Ружанцоў выехаў у Бэрлін, ндлт. Сангайла - Станевіч зусім не прыехаў у Гэкстэр, памешканьня для канцылярыі няма. У сувязі з гэтым, праца філіі ГКВС не вядзецца.

У адносінах да пэрсанальнага складу працаўнікоў філіі ГКВС у Вэстфаліі, - паўторна прашу пакінуць на працы ў філіі ндлт. Кажана Віталя...

Скрынкі з канцылярыяй філіі ГКВС і Вашым архівам, знаходзяцца пад маёй апекай і дапамога ндлт. Станевіча, у часе перагрузак і перавозаў, будзе вельмі слабай". *(НАРБ, ф.383, в.1, спр.6, арк.341, машынапіс, арыгінал)*

"Начальнік Канцылярыі Гэкстэр, 23 лютага 1945 г.
Галоўнага Кіраўніцтва
Вайсковых Спраў БЦР
Кіраўніку Вайсковых Спраў БЦР
у Бэрліне

Рапарт На №2051

Даношу, што праца канцылярыі ГКВС зусім не вялася і цяпер не вядзецца дзеля таго, што часова затрымаліся мы ў памешканьні школы і ўсе рэчы ды канцылярыя зложаны ў асобным пакоі, а скрынкі з Вашым архівам стаяць у калідоры. Распакавацца і разлажыцца канцылярыі няма дзе. Справа з памешканьнем для нас і канцылярыяў філіі БЦР нечаму адцягваецца.

З мамэнту раскватараваньня - праца канцылярыі ГКВС распачнецца і будзе вясьціся паводле Вашых указаньняў.

/А. Васіленя Адм. капітан/
Начальнік Канцылярыі."
*(НАРБ, ф.383, в.1, спр.6, арк.343, машынапіс)*

Пройдуць яшчэ два месяцы і генэрал-маёр Кастусь Езавітаў будзе захоплены "Сьмершам". Бальшавікам дастанецца і частка ягонага архіву, якая ў 1990-ых будзе перададзеная з архіву КДБ у Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Іншая частка архіву генэрала Езавітава была вывезеная на Захад. Эміграцыйны бюлетэнь "Вольнае слова" яшчэ ў красавіку 1949-га году пісаў, што частка архіўных збораў Езавітава яшчэ ў Гёкстары трапіла ў рукі Аляксея Сянькевіча і Анатоля Шкуткі. Людзей гэтых ужо няма ўжывых. У Аўстраліі памёр і Аляксей Васіленя. Але яшчэ застаюцца жывыя сьведкі тых падзеяў, якія маглі-б распавесьці нешта новае пра лёс архіўных збораў беларускага генэрала.

**Сяргей ЁРШ**

**На здымку: Кастусь Езавітаў.**

* *Насамрэч, на гэты час Езавітаву ўжо была пацьверджана ранга генэрал-маёра, атрымана ім яшчэ ад Ураду БНР.*

# ЯМУ АДКРЫЛАСЯ КРАСА ...

## Да 80-годьдзя мастака Юзафа Пучынскага

*І толькі веку мастака*
*Краса даверыцца адкрыцца,*
*Каб непаўторна паўтарыцца*
*Цнатлівым дотыкам мазка...*
***Рыгор Барадулін.***

Зь верша, прысьвечанага Юзэфу Пучынскаму.

Ужо некалькі гадоў у Чыкага жыве і плённа працуе выдатны беларускі мастак Юзаф Пучынскі. Ягоныя жывапісныя тэматычныя карціны, пейзажы, нацюрморты, партрэты, шматлікія творы ў тэхніцы графікі вылучае строгая форма і рэалістычная традыцыя. Але традыцыя гэта ідзе ад мастакоўскае школы з найвялікшымі прафэсыйнымі й эстэтычнымі патрабаваньнямі, ад віцебскай школы, якая дала ўсяму сьвету ў ХХ-м стагодзьдзі многіх славутых майстроў выяўленчага мастацтва.

Радзіма Юзафа Пучынскага - мястэчка Ўзда, там, дзе бярэ пачатак апетая многімі ў жывапісе і паэзіі рака Нёман. Бацька будучага мастака, мясцовы каваль, хацеў, натуральна, каб Юзік (менавіта так завуць дагэтуль Юзафа Пучынскага ягоныя сябры усіх узростаў) працягваў сямейную прафэсыйную традыцыю. Але хлапец не паслухаўся бацькі: ён апантана хацеў стаць мастаком. Ён едзе ў Віцебск і паступае вучыцца ў заснаванае Маркам Шагалам Мастацкае вучылішча.

Але завяршыць вучобу не ўдалося: пачалася вайна. У дваццаць годоў Юзаф Пучынскі - ўдзельнік жорсткіх баёў пад Сталінградам, там-жа быў цяжка паранены. Мастак увесь час беражліва захоўваў і нават прывёз ў Чыкага некалькі замалёвак алоўкам, што зрабіў тады, у 1942-м годзе. Сёньня немагчыма глядзець на іх без хваляваньня... Працягваў сваю мастакоўскую адукацыю Юзаф Пучынскі ўжо пасьля вайны ў Менскім тэатральна-мастацкім інстытуце. Сярод яго настаўнікаў былі такія майстры як Валяньцін Волкаў, Віталь Цьвірка, Іван Ахрэмчык.

У жывапісных і графічных працах пасьля інстытуту Юзаф Пучынскі імкнецца знайсьці свой непаўторны стыль, прычым не ў зьнешніх праявах, а ў зьмястоўнасьці мастацкіх пошукаў, у эмацыйнай экспрэсыўнасьці пры выкарыстаньні самай рознай тэхнікі. Ягоныя тэматычныя карціны заўсёды былі по настрою зусім іншыя, чым патрабавала рознае кіраўніцтва і афіцыйная крытыка. Сапраўдная стыхія мастака - пейзажы, напісаныя ў розны час у самых розных кутках роднае Беларусі, пейзажы, якія апяваюць яе прыроду і яе векапомныя мясьціны. Возера, а на далёкім беразе - старадаўні замак... Знаёмыя абрысы архітэктурных помнікаў Нясьвіжа... Каплічка сярод дрэваў... Царкоўныя сцэны, што хаваюць нейкую таямніцу... Коні на беразе такой задуменнай ракі... Зімовая далечыня, пакрытая сінім снегам, неба, задуменнае, хмарнае, такое, пра якое Рыгор Барадулін, даўні сябра Пучынскага, напісаў аднойчы, гледзячы на карціну мастака: "Непрацэджаны хмар сырадой..." А вось - сьветлы летні дзень, такі прыманлівы стог сена на лузе, усе фарбы - звонкія... Юзаф Пучынскі напісаў мноства пейзажаў, і нідзе няма паўтарэньня пункту гледжаньня, ракурсу, каляровае гамы. Кожны раз - новая сустрэча з прыродаю, новае перажываньне.



У жанры пейзажу мастак пасьпяхова працягвае працаваць і тут, у эміграцыі. У такіх творах як "Унівэрсытэт Лайола", "Зіма ў Чыкага", "Чыкагскі пейзаж" ды іншых адчуваецца тая-ж удумлівая манэра мастака; мы бачым нібы працяг мастацкага асэнсаваньня новае прасторы, новага жыцьця, новае рэальнасьці.

Няпростае адлюстраваньне натуры, а яе спасьціжэньне, пранікненьне ў яе сутнасьць, - так-бы я вызначыў адметную якасьць творчай індывідуальнасьці Юзафа Пучынскага. "Хто мы? Адкуль мы?" - нібы пытаецца мастак у сваіх пейзажах, нацюрмортах, партрэтах. Дарэчы, у нацюрмортах - той-жа заклік да роздуму, ня простае захапленьне кампазыцыяй, а запрашэньне да суперажываньня. Асобна можна гаварыць пра гармонію колераў мастака, пра фарбы на ягоных палотнах.

У партрэтах мастака адчуваецца шчырая любоў да людзей, глыбокая праўда характараў пэрсанажаў. Выдатна выкананы мастаком партрэт Янкі Купалы ўпрыгожвае залю Беларускага нацыянальна-культурнага цэнтру пры ўніяцкай царкве Хрыста-збаўцы ў Чыкага. Сутнасьць асобы, псыхалягічная дакладнасьць, глыбокі роздум пра час, пра лёс роднае зямлі й яе выдатных прадстаўнікоў, - усё гэта чытаецца ў ягоных партрэтах Рыгора Барадуліна, Янкі Сіпакова, Артура Вольскага і іншых. Цікавыя ў Юзафа Пучынскага і абагуленыя партрэты, такія як "Партызанская маці", "Дзяўчына з Рудні", "Гэбрайская бабуля" ды іншыя. Блізкія да гэтага жанру і творы, напісаныя па матывах біблейскіх сюжэтаў і нядаўняе трагічнае гэбрайскае гісторыі - "Юдзіф", "Іоў", "Саул і прарок Самуіл", "Памяць пра Бабін Яр", "Зоркі. Менскае гета".

Як мастак-графік Юзаф Пучынскі доўгія гады пасьпяхова працаваў у часопісах "Работніца і сялянка", "Маладосьць", у кніжных выдавецтвах Менску, Кіева, Масквы. Мастаком створаныя цудоўныя ілюстрацыі амаль да 150 кнігаў беларускіх і замежных пісьменьнікаў, вялікая колькасьць малюнкаў і ілюстрацыяў надрукаваная ў самых розных перыядычных выданьнях. І ў графічных працах мастака тая-ж уласьцівая яму натуральнасьць кампазыцыі, перадача ліній, штрыхом самага галоўнага, тая-ж шчырасьць і экспрэсыўнасьць.

...Прыгадваю свае маладыя гады, як мы прыходзілі ў менскую майстэрню да Юзафа Пучынскага. Усе мы - і Рыгор Барадулін, і Міхась Стральцоў, і Артур Вольскі, і Валянцін Тарас, і іншыя - былі маладзейшыя за мастака, але нас усіх нешта моцна цягнула да яго. Тут можна было шчыра і адкрыта пагаварыць аб усім, адвесьці душу, часам узяць і чарку... У тыя часы менавіта тут не баяліся анікога, не прызнавалі аніякіх аўтарытэтаў. Да Юзафа Пучынскага ня вельмі прыхільна ставілася кіраўніцтва Саюзу мастакоў Беларусі й рознае начальства, але ўсе ягоныя пэрсанальныя выставы карысталіся вялікім посьпехам - і ў Менску, Кіеве, Маскве, Вільні, у Польшчы, Венгрыі, Баўгарыі, Італіі... Ужо тут, у Амэрыцы, творы мастака экспанаваліся ў вялікай залі Чыкагскае мэрыі, яны былі аднымі зь лепшых на нядаўняй адмысловай выставе "Зямля пад белымі крыламі", дзе былі паказаныя працы мастакоў, якія паходзяць зь Беларусі й жывуць цяпер у Чыкага.

19-га сьнежня 2002-га году Юзафу Пучынскаму споўнілася 80 гадоў. Ён працягвае плённа працаваць, захоўваючы сваю традыцыйную стылістыку, дадаючы ў свае палотны матывы асэнсаваньня новае прасторы, новага жыцьця, новае рэальнасьці. Творчасьць для мастака - гэта не проста праца. Гэта - сутнасьць ягонага жыцьця, яе плённы зьмест. Віншуючы гэтага цудоўнага чалавека і мастака са слаўным юбілеем, пажадаем яму моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцьця і новых посьпехаў у ягонай натхнёнай творчасьці.

***Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ***

**На ілюстрацыі: "Краявід Чыкага".**




# Весткі й Паведамленьні

нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

✉ 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://belam.cjb.net

№1 (444)


# СЬНЕЖАНЬСКІ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

У Фундацыі імя Крэчаўскага 14-га сьнежня прайшоў чарговы сход аддзелу БАЗА. Напачатку старшыня аддзелу сп. В. Зайка пазнаёміў прысутных з падзеямі ў Беларусі. Адною з апошніх навінаў было запрашэньне рэжымам Лукашэнкі групы з трох сэнатараў і кангрэсмэнаў ЗША, К. Бэрнза, Р. Бартліта і К. Уэлдана, для быццам пошуку шляхоў нармалізацыі беларуска-амэрыканскіх адносінаў. На справе аказалася, што амэрыканскія палітыкі былі выкліканыя для ўдзелу ў прапагандысцкай акцыі рэжыму. На перамовах, якія ішлі больш за чатыры гадзіны, абмяркоўвалася наданьне візаў прадстаўнікам АБСЭ. Калі візы для іх дадуць, тады амэрыканскія палітыкі будуць рабіць захады аб зьняцьці абмежаваньняў на паездкі беларускіх урадоўцаў у ЗША.

У выніку госьці з ЗША аказаліся ашуканыя - у прэс-рэлізе Лукашэнкі было заяўлена пра тое, што "дэлегацыя Кангрэсу ЗША прызнала Лукашэнку абраным сумленна й дэмакратычна, і што сябры дэлегацыі маюць намер рэкамэндаваць адміністрацыі ЗША скасаваць візавыя абмежаваньні ў адносінах да беларускіх урадоўцаў". Дарэчы, амбасадар ЗША ў Менску М. Козак ня раіў кангрэсмэнам прымаць запрашэньне Лукашэнкі. Курт Уэлдан, сябра дэлегацыі, які на момант выхаду прэс-рэлізу яшчэ знаходзіўся ў Менску, назваў інфармацыю ў прэс-рэлізе "абуральнай хлусьнёй", а дзеяньні адміністрацыі прэзідэнта Беларусі - "палітыкай ніжэйшага гатунку".

Зь іншых навінаў былі ўзгаданыя захады Лукашэнкі й Мітрапаліта Філарэта аб наданьні расейскаму праваслаўю статусу дзяржаўнае царквы, перашкоды да ўдзелу партыяў у выбарчых камісіях на маючых адбыцца мясцовых выбарах, продаж ўрадам Беларусі беларускага пакету акцыяў кампаніі "Славнефть", праект бюджэту на наступны год, выдаткі на "сілавыя міністэрствы" ў параўнаньні да міністэрстваў культуры й адукацыі, пераезд Васіля Быкава ў Прагу, "негатовасьць" Беларусі й Расеі да ўвядзеньня адзінае валюты й інш.

Сп-ня Валя Якімовіч прадэклямавала верш Натальлі Арсеньневай "Над паўстанцкай магілай", прысьвечаны памяці героя́ў-случакоў і санэт М. Багдановіча "Паміж пяскоў эгіпецкай зямлі" да 101-й гадавіны зь дня нараджаньня паэты.

Затым перад прысутнымі выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён даў аналіз сёнешняй палітычнай сытуацыі ў Беларусі, а таксама сытуацыі вакол Беларусі ў міжнародным супольніцтве, у тым ліку недапушчэньне Лукашэнкі на сустрэчу на вышэйшым узроўні дзяржаваў НАТО ў Празе.

Пасьля гэтага сп. Віталь Зайка, Др. Ганна Бартуль і сп. Сяржук Сокалаў-Воюш паведамілі пра ініцыятыву прадстаўнікоў Міністэрства замежных справаў Беларусі скліканьня Кангрэсу беларусаў замежжа. Шэраг прамоўцаў выказаліся пра неабходнасьць дэтальнага аналізу прапановаў і каардынацыі адказу на іх зь іншымі беларускімі арганізацыямі. Прагучала перасьцярога супраць сытуацыі, у якую нядаўна трапілі ў Менску амэрыканскія кангрэсмэны, калі зьмест і сутнасьць перамоваў былі перакручаныя рэжымам, а самыя перамовы скарыстаныя нават як дадатковы доказ "легітымнасьці" рэжыму. Між тым трэба памятаць, што апошнія прэзыдэнцкія выбары не былі прызнаныя свабоднымі й дэмакратычнымі, і рэжым прадказальна імкнецца скарыстаць кожную нагоду, у тым ліку кантакты з дыяспараю, для прапагандысцкіх мэтаў, не зважаючы на наступствы фальшаваньняў ці хаця-б на стварэньне выгляду прыстойнага захаваньня. Па гэтым пытаньні выказаліся таксама сп. Антон Шукелойць і сп. Зянон Пазьняк.

Затым у "Розным" прагучэлі аб'явы й паведамленьні. (Гл. аб'явы ніжэй).

**Віталь ЗАЙКА**

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| А. Дзенісавец | .30 | А. Матух | .30 |
| І. Ляонава | .30 | Дз. Хітрыкаў | .30 |
| П. Матовіч | .30 | В. Едзіновіч | .30 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку аддзелу на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*

**Ахвяраваньні на БелПом дасылайце на адрас:**

*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*

*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя A. Mickievic*

**Наступны сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА адбудзецца 11-га студзеня 2003-га году ў грамадзкай залі Сабору Сьв. К. Тураўскага ў Брукліне.**

**Сход будзе спалучаны з тэматычнаю імпрэзаю, прысьвечанаю старадаўняй беларускай традыцыі калядаваньня. Прысутныя даведаюцца пра калядаваньне, пачуюць калядныя сьпевы, пакаштуюць нацыянальных стравaў.**

**ЗАПРАШАЕМ УСІХ!**

**Пачатак а 7:00 вечара па адрасу: *401Atlantic Ave (пры Bond Street), даезд падземкаю A, C, G да станцыі Hoyt-Shermerhorn, або F да Bergen St.***

# ВЫКРЫВАЮЦЬ НЕЛЕГАЛЬНЫХ ІМІГРАНТАЎ

Беспрэцыдэнтная кампанія адміністрацыі *Social Security*, якая накіраваная на праясьненьне сытуацыі з падробленымі нумарамі, ставіць пад пагрозу працы тысячаў нелегальных імігрантаў па ўсіх Злучаных Штатах. Большасьць працадаўцаў, атрымаўшы паведамленьні з фэдэральнае агэнцыі, што іхныя работнікі падалі неправільныя нумары *Social Security*, прымушаюць сваіх работнікаў пацьвердзіць іхняе права працаваць у краіне легальна. Выканаць такое патрабаваньне нелегальныя іміграні звычайна ня могуць.

Непрыемнасьці нелегальных работнікаў адлюстроўваюць адзін з сакрэтаў амэрыканскае эканомікі: працоўная сіла ў вялікай меры залежыць ад імігрантаў, якія атрымалі працу праз падробленыя нумары.

Цяпер многія працадаўцы, напалоханыя дзеяньнямі ўраду, якія раней ня ведалі ці не хацелі ведаць тое, што яны нанялі нелегальных імігрантаў, пачынаюць дзейнічаць.

Хоць адміністрацыя *Social Security* рассылала папярэджаньні аб разыходжаньнях у імёнах і нумарах і раней, але цяпер такая рассылка асабліва заўважная, бо многія кампаніі атрымліваюць папярэджаньні ўпершыню. Сёлета агенцыя плянуе разаслаць лісты прыкладна 750 000 працадаўцам (для параўнаньня, у 2001-м годзе было разаслана толькі 110 000), каб тыя праясьнілі магчымыя памылкі.

Хоць лісты тыя гучаць пагражаюча, але адміністрацыя *Social Security* ня мае паўнамоцтваў, каб пакараць працадаўцаў, якія адмовіліся адказваць на запыт, ці работнікаў, якія паказалі фальшывыя нумары. І хоць Служба Іміграцыі й Натуралізацыі можа пакараць працадаўца штрафам, калі яго работнікі прызнаюцца, што яны працуюць нелегальна, але фэдэральныя інструкцыі не дазваляюць гэтым дзьвум агенцыям абменьвацца інфармацыяй.

Кіраўнікі *Social Security* заяўляюць, што гэтая кампанія была заплянаваная яшчэ напярэдадні тэрарыстычных актаў 11-га верасьня 2001-га году і ня выкліканая прычынамі бясьпекі.

У атмасфэры пасьля 11-га верасьня шмат якія кампаніі, каб унікнуць абвінавачваньня ў дапамозе тэрарыстам і не рызыкаваць сваім імём, пачынаюць дзейнічаць парушаючы закон. Яны звальняюць работнікаў не даючы ім нават магчымасьці патлумачыць разыходжаньні ў дакумэнтах. Гэтыя парушэньні ўжо папалі пад увагу прафсаюзаў, якія заклікаюць звольненых работнікаў судзіць сваіх былых працадаўцаў.

Кампанія па ўпарадкаваньню нумароў *Social Security* не пазбавіць нелегальных эмігрантаў магчымасьці працаваць зусім. Яна толькі прымусіць іх скакаць з аднае працы да другую. Вынікам будзе тое, што яны ня змогуць зарабіць працоўны стаж на адным месцы ці атрымаць падвышэньне заробку, бо вымушаныя будуць часта мяняць працы.

***З амэрыканскага друку***

## ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!

**Падчас правядзеньня каляднае вечарыны ў грамадзкай залі Сабору Сьв. К. Тураўскага на 401 Атлянтык Авеню ў Брукліне нью ёрскі аддзел правядзе сьвяточную лятарэю.**

**Сябры аддзелу, а таксама некаторыя іншыя чытачы, якія жывуць у ваколіцах Нью Ёрку, разам з гэтым нумарам газэты атрымаюць лятарэйныя квіткі. Каб узяць удзел у розыгрышы, дашліце ўплату ў памеры $1 за кожны квіток на адрас скарбніка аддзелу. Чэкі выпіскайце на *Belarusan American Association.***

**Калі Вы ня зможаце прысутнічаць на розыгрышы, калі ласка, не турбуйцеся, свой выйгрыш Вы зможаце забраць на адным з наступных сходаў нью ёрскага аддзелу БАЗА.**

**Багдану Андрусышыну, які з ЗША паказаў тым, хто жылі ў Беларусі, прыклад любові да народу і культуры Радзімы сваіх бацькоў, спаўняецца 3-га студзеня 2003-га году 45 гадоў. Ад імя ўсіх беларусаў, чые душы ён узрушыў сваімі сьпевамі й валоданьнем чыстаю беларускаю моваю, шчыра віншуем яго з гэтае нагоды, зычым здароў'я, творчых пасьпехаў і асабістага шчасьця ў жыцьці.**

# ЛЮБІЦЕ І ДАВАЙЦЕ ДЗЕЦЯМ КРЫЛЫ

## ДА ЎГОДКАЎ БАГДАНА АНДРУСЫШЫНА - ДАНЧЫКА

У амэрыканскай сям'і Андрусышыных маці Юля - беларуска, бацька Паўло - украінец. Двое сыноў Юрка і Багдан змалку выхоўваліся ў сям'і, дзе шанаваліся сямейныя карані й традыцыі дзядоў, яны найперш навучыліся мове бацькоў, а потым ангельскае. Юрка па адукацыі юрыст, больш адчувае сябе амэрыканцам, а Багдан неяк прыпаў сэрцам да Беларусі. Бацькі й бабуля Яня, якая ўжо разьмяняла 94-ы год жыцьця, уклалі ў дзяцей сваю любоў да зямлі бацькоў і свае найлепшыя памкненьні. Змалку хлопцы назіралі за руплівымі рукамі сваёй маці, якая апранала ў вышыванкі амаль усю беларускую эміграцыю, якімі-бы пяяла чароўную песьню пра далёкую Беларусь. Адносіны бацькоў да Забэйда-Суміцкі насілі народны характар і лёгка даходзілі да слухача. У 1960-я гады ў Чэхаславаччыне выйшла некалькі кружэлак з запісамі Міхася Забэйды-Суміцкага, і гэта дало магчымасьць сьвету бліжэй пазнаёміцца зь беларускаю музыкаю, якая датуль была невядомая.

Багдан Андрусышын пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту ў 1981-м годзе, зарабіўшы крыху грошай, паехаў у падарожжа па Эўропе. Наведаў Італію, Францыю, Нямеччыну, Швэцыю і Польшчу, дзе на Беласточчыне выступіў з шэрагам канцэртаў.

Увосені 1981-га году да Данчыка прыехаў Лявон Барткевіч, і яны разам запісалі альбом з назваю "Мы адной табе належым".

Толькі на 31-м годзе жыцьця, у 1989-м годзе Данчык атрымаў ладыя і старэйшыя. Залі, дзе ён выступаў, палыхалі бел-чырвонабелымі сьцягамі й Пагонямі.

На працягу верасьня і кастрычніка Данчык даў шмат канцэртаў у Беларусі, грошы за якія ахвяраваў у Фонд Чарнобыля. У Менску і Вільні выступаў разам зь Лявонам Барткевічам і паэтам-бардам Сержуком Сокалавым-Воюшам, што спрыяла мацнейшаму згуртаваньню беларусаў. Штодзённы канцэрты ў той ягоны прыезд давялі да таго, што сьпявак ледзьве вытрымаў свой апошні канцэрт у Полацаку. А яго яшчэ чакалі на Радзіме бацькі на Ўкраіне, дзе ён даў таксама шмат канцэртаў.

Зь сябрамі-талакоўцамі мы тады надумалі запрасіць яго папрыяцельску да некага з нас. Зьбіраліся пасьля чарговага канцэрту, пры чым, двойчы, першы раз у верасьні, а другі пасьля вяртаньня з Украіны ў кастрычніку ў маёй двухпакаёўцы, дзе я жыла зь дзецюком-сынам. Нас набілася 47 чалавек! І ўсім хапіла месца. Было ўсялякіх беларускіх мітынгу на плошчы, які ладзіў БНФ, усе на разьвітаньне хацелі пацiснуць Данчыку руку, нешта падараваць ці сказаць. Цягнік адыходзіў, а Данчык плакаў, ня маючы моцы больш стрымліваць пачуцьці.

Калі ў красавіку 1993-га году Багдан прыехаў зь Мюнхэну і паведаміў, што прыехаў у Менск толькі ў якасьці журналіста Радыё "Свабода" і больш не сьпявае, у гэтае немагчыма было паверыць. Сталася так, што яго, як журналіста, зацьміў, апярэдзіў вобраз сьпевака, які стаўся для нас нацыянальным героем на той час.

У сьнежні 1996-га году перад прыездам Данчыка ў Менск, напярэдадні Калядаў, менчукі хваляваліся, бо жадаючых патрапіць на канцэрт было мора, а кветкою было не дастаць. У Дом літаратара, дзе адбываўся першы канцэрт ня здолелі патрапіць нават многія зь пісьменьнікаў і паэтаў. Заля філярмоніі таксама аказалася замалою. Перад уваходамі стаямі натоўпы. За прыпынак да філярмоніі, ужо ад плошчы Перамогі, перапытвалі "лішняга квіточка". Усе хацелі быць на канцэрце Данчыка.

Людзі старэйшага веку прыгадвалі лета 1963-га году, калі Забэйдзе-Суміцкаму нарэшце дазхам поўнілася заля, калі гучала жартаўлівая народная песьня "Ой, як на току на майдане жонкі мужыкоў прадавалі". Праз тонкае адчуваньне мэлёдыі й паэтыкі песьні ды выключнае выконваньне, часта лепшае за прафэсійнае, Багдан абсалютова валодаў сэрцамі й пачуцьцямі слухачоў.

У той раз Данчык прыяжджаў і ў Горадню, Полацак, Віцебск. 25-га сакавіка 1997-га году разам з Галінай Дзягілевай, акторкай менскага тэатру "Зьніч", даў канцэрт у Эстоніі, наведаў Фінляндыю. Фактычна, вядучыя на ягоных канцэртах былі непатрэбныя, бо кантакт з заляю сьпявак наладжваў сам. Паўсюль яго прымалі як роднага.

Апошні канцэрт Данчыка ў ЗША быў у Вербную нядзелю ў залі царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтык Авеню 104 у 1997-м годзе. Да сябе ён падыходзіць строга і ня можа дазволіць выйсьці сьпяваць нават перад малой аўдыторыяй непадрыхтаваным. Але летась, калі ў Прагу заехаў Лявон Барткевіч, Данчыка папрасілі па-сяброўску падтрымаць яго, і яны ўдвох насьпявалі цэлы канцэрт.

Праца на радыё забірае ў Багдана ўвесь час, няма калі й сьпявацца мовы й народнага мастацтва сталі добрым прыкладам для дзяцей. На рамантычную душу Данчыка, як празвала Багдана зь любоў'ю бабуля, асабліва ўплыў аказалі беларускія й украінскія песьні.

Задоўга да першага прыезду Данчыка ў Беларусь, яго ўжо ведалі, перапісвалі адзін у аднаго ягоныя песьні, марылі пачуць ягоны жывы голас. Першая кружэлка выйшла ў сьвет у 1977-м годзе, калі 19-гадовы юнак быў студэнтам журналістыкі й славянскіх моваў і літаратуры Нью Ерскага ўнівэрсытэту. Тады ён узяў некалькі ўрокаў у настаўніка музыкі Мэйтланда Пітэрса, патым браў калі-нікалі прыватныя ўрокі ў розных піяністаў і вельмі шмат працаваў самастойна.

У 1985-м годзе ў ЗША выйшла кружэлка "Я ад вас далёка", на якой быў запісаны адзін з найлепшых твораў Сяргея Новіка-Пеюна песьня-ліст да бацькоў "Зорачкі", напісаная паэтам у 1929-м годзе ў высылцы, музыка і словы якое былі поўныя тугі па Радзіме. Калі Данчык сьпяваў "Зорачкі", нашыя сэрцы сьціскаліся, так пранікнёна ліліся гукі гэтае песьні.

Упершыню пачуўшы голас Данчыка, ягоную манэру выкананьня Сяргей Новік-Пяюн сказаў: "Гэта-ж наш другі Забэйда-Суміцкі!" Сапраўды, шляхі й лёсы сьпевакоў нечым падобныя. Перакрыжоўваюцца, хоць і не ў часе, іх шляхі ў Празе, дзе доўгія гады жыў Міхась Забэйда-Суміцкі, і жыве цяпер Багдан Андрусышын. Абодва - тэнары, толькі ў першага высокі оперны, а ў другога тэнар пераходзіць у барытон. Абодва статныя элегантныя. Яны скаралі аўдыторыю сваёю шчырасьцю, дабразычлівасьцю, чыстымі галасамі.

Забэйда-Суміцкі сьпяваў на васьмі мовах. У канцэртах побач з клясычнымі творамі сьпяваў беларускія народныя песьні, поўныя любові да Радзімы й яе народу. Нават творы, напісаныя кампазытарамі, калі іх сьпяваў



дазвол наведаць Бацькаўшчыну. І ў верасьні менчукі сустрэліся з Багданам - нашчадкам славутага роду Луцкевічаў. Усе былі зачараваныя ягоным пяшчотным тэнарам, прыгажосьцю, шляхетным выхаваньнем. Прыемна ўражвалі незвычайная мэлядычнасьць і чысьціня беларускае мовы. Кожны, хто размаўляў зь ім, адчуваў сябе так, нібы ён для Данчыка вельмі значны й патрэбны чалавек, таму не палюбіць сьпевака было немагчыма.

На ягоныя канцэрты ішлі людзі абсалютова розных палітычных і культурных пагляда́ў, нацыяналісты й камуністы з касамольцамі, аматары клясыкі й року, мастраваў і адная бутэлька сухога віна - на большае не хапіла грошай. Усе паселі вакол абруса на падлозе ў два-тры колы. Толькі Данчыка з маці ўсадзілі на фатэлі. Была там ягоная цётка Алена, цётка Маргарыта зь Ленінграду з дачкою, Кася і Алесь Камоцкія, паэта Анатоль Сыс, Сяржук Сокалаў-Воюш, Юрась Беленькі з жонкаю, Лявон Барткевіч, хлопцы з гутроў "Уліс", "Талака". Было весела! Сьпявалі ўсю ноч, і адную, і другую. Хіба-ж такое забудзеш?!

Праводзіць Данчыка на вакзал прыйшло тысячаў пяць-сем удзячных слухачоў і змагароў за нашую Волю. Адразу пасьля воліі прыехаць на Радзіму. Сытуацыя была падобная. Канцэрт аб'явілі больш чым стрымана, квіткі ў касе "зьніклі". Прыхільнікі саліста опэрных тэатраў Варшавы, Познані, Кракава, Прагі й міланскага "Ла Скала" шукалі й не знаходзілі таго-ж "лішняга квіточка". А ў залі менскай філярмоніі тым часам шмат месцаў пуставала, бо "слішком белорусский репертуар" сьпевака быў недаспадобы ідэалягічнай намэнклатуры. Ды Міхась сьпяваў не для іх, а для свае Радзімы, успаміны пра якую ўсё жыцьцё насіў у сэрцы.

На канцэрце-ж Данчыка ў залі менскае філярмоніі ў 1996-м годзе не было дзе і яблыку ўпасьці. Засерабрыліся, бы ірыцярушаныя сьнегам, скроні, але гады амаль не зьмянілі сьпевака. Ён папрасіў прабачэньня ў публікі, што ўсяго толькі аматар. Але зь першых гукаў слухачы былі прыемна ўражаныя высокаю культураю выкананьня. Данчык выконваў песьні на беларускай, украінскай, гішпанскай, францускай мовах. Тэмпэраментна і ўрачыста прагучаў гэбрайскі гімн "Хава нагіна". Захапіла пяшчотаю "Ціхія ноч" па-беларуску і па-нямецку. Калі-ж Данчык засьпяваў у перакладзе дактара Мацея Смаршчка, паэтычны псэўдонім якога Анатоль Бярозка, з францускае на беларускую мовы песьню "Калі лісьце раняе клён", прысьвечаную сьпеваком Марыі Чэпялёвай - роднай сястры Яніны Каханоўскай, бабулі Данчыка, якая на 86-м годзе жыцьця прыехала зь Ленінграду на ягоны канцэрт, сьлёзы засьцілалі Данчыкавы вялікія блакітныя вочы. І не ўяўляю ў каго з слухачоў ня маглі заставацца сухімі. Ніхто і ніколі ня змог-бы выканаць гэтую песьню лепш за Багдана.

Уражвае багацьце песеннага рэпэртуару зь беларускага фальклёру, поўнага простай мудрасьці й бліскучага гумару. Сьмевацца. Але беларусы ў Нью Ерку былі-б вельмі радыя пачуць ягоны голас ізноў, хоць калуарна, па-прыяцельску. Бо з 1994-га году, пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі, калі пачалі нішчыць усё беларускае, іншы раз здаецца, што ўжо ня хопіць сілаў, каб так жыць, ня тое, што змагацца. Сваімі сьпевамі Данчык неаднойчы згуртоўваў нас, уздымаў на новае змаганьне. Бо песьня, нават у самыя змрочныя часіны, ачышчае, узвышае і натхняе на дабро, дае веру ў перамогу.

Некалі на маё пытаньне, якія падарункі для яго найдаражэйшыя, ён проста адказаў, што любіць усё прыгожае, але найбольш мастацкія ўзоры, абразы. Калі запытала: "Што ў сучаснай культуры здаецца табе найбольш унікальным?", адказаў: "Хіба традыцыйная культура любога народу не зьяўляецца унікальнаю?" Асабліва важным здаецца выхаваньне моладзі ў нацыянальным рэчышчы. На жаль, я ня меў магчымасьці ўдзельнічаць у такіх абрадавых сьвятах, як Купальле, Каляды ды іншыя. Але вывучэньне з малых гадоў спадчыны бацькоў вельмі важнае."

Пытаюся: "Якую-б калыханку ты раіў нашым беларускім жанчынам сьпяваць сваім дзецям?" На што Данчык трошкі абурана адказаў: "А што, толькі маці павінны сьпяваць сваім дзецям? Па-мойму, бацька павінен найперш займацца выхаваньнем свайго нашчадка. Калі-ж гаварыць пра песьню, то вельмі добрая калыханка Зьміцера Еўтуховіча "Сьпіць над лесам аблачынка". У сям'і самае галоўнае - любоў. Зь Любові распачаўся сьвет. Трэба толькі любіць дзяцей не абразаючы ім крылы. Любіце і давайце дзецям крылы!".

**Валянціна ЯКІМОВІЧ**

***На здымку: Данчык падчас канцэрту ў Філярмоніі ў Менску 30-га лістапада 1996-га году.***

# НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ

**Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі. Бібліяграфія.** Складальнікі: Вітаўт Кіпель і Зьміцер Саўка. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Нью-Ёрк - Менск, 2001. 570 ст.

На сучасным этапе беларускага нацыянальнага адраджэньня й дзяржаўнага будаўніцтва беларуская мова застаецца найгалоўным "абаронцам" ідэі незалежнасьці Беларусі. І нідзе наша мова не прадстаўлена шырэй і грунтаўней, як у агляданай тут бібліяграфіі слоўнікаў ды энцыкляпэдыяў. У кнізе - больш за 2200 бібліяграфічных пазыцыяў - вынік шматгадовае крапатлівае працы складальнікаў. Тут пералічаныя і слоўнікі літаратурнай мовы, і дыялектныя, і галіновыя, і фразэалягічныя, і перакладныя. Ад вялікіх шматтомавых да малых і маленькіх слоўнічкаў, што пахаваліся напрыканцы кнігаў ці нават часапісаў. Кідаецца ў вочы, што тэрміналягічна-слоўнікавы набытак ладна ўзбагаціўся на працягу мінулага дзесяцігодзьдзя, калі беларуская мова дачакалася была параўнальнай свабоды, якую апошнімі гадамі заціснула лукашэнскаўская рэакцыя.

Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі

Вітаўт Кіпель і Зьміцер Саўка

Кніга адзначаецца добраю арганізацыяй зьмешчанага ў ёй матэрыялу. Слоўнікі разьмеркаваныя па трох катэгорыях: друкаваныя (больш за 2000), рукапісныя й картатэчныя (129) ды электронныя (10).

Карыстацца кнігаю дапамагаюць паказьнікі: паводле тыпу слоўнікаў, тэматычны, моўны (паводле мовы, зь якое ці на якую перакладаецца беларускі матэрыял), асабовы, геаграфічны, паводле месца выданьня ды паводле году выданьня.

Галоўны ініцыятар гэтага ўнікальнага выданьня, др. Вітаўт Кіпель, кажа ў кнізе пра свае "40 гадоў бібліяграфічнага зьбіраньня": "Напрыканцы 1950-х гадоў, каб быць прафэсійна зьвязаным зь беларусістыкаю, зь Беларускаю Справаю (ведаю: так было наканавана!), я зьмяніў асноўны занятак: пакінуўшы геалёгію, стаў бібліятэкарам, скончыў бібліятэчны факультэт амэрыканскага ўнівэрсытэту. Адным зь першых маіх заданьняў у новай прафэсіі была дапамога ў складаньні бібліяграфіі слоўнікаў славянскіх моваў. Якраз тады мне й прыйшла думка скласьці шырэйшую картатэтку беларускіх слоўнікаў.

"(...) Пры сутыкненьні з багацьцем лексычнага матэрыялу ўзмацнялася, выкрышталізоўвалася пераканаьне на квантытатыўнай базе паказаць, што беларускае слоўніцтва разнабакова, шматгранна разьвітае. Рэсурсы беларускага слоўніцтва - закумуляваныя ў народнай мове, ідыяматыцы, у гістарычным справаводзтве, у немалых тэрміналягічных зборах - гэта гарант нашага існаваньня як сувэрэннае нацыі".

Суаўтар гэтае выдатнае працы, Зьміцер Саўка, у "Асноўных заўвагах для карыстальнікаў" зазначае, што кніга кладзецца "ў падмурак для выкананьня аднаго з найважнейшых заданьняў беларускага мовазнаўства - пабудовы ўнівэрсальнае электроннае базы беларускае мовы, якая дасьць шырокі й трывалы грунт для стварэньня слоўнікаў разнастайнае тэматыкі й прызначэньня".

Нельга перабольшыць значэньня выхаду ў сьвет гэтае працы. Застаецца толькі пажадаць, каб накрэсьленыя далейшыя мэты зьбыліся як мага шырэй ды як мага хучэй. А станецца гэта тады, калі радыкальна зьменіцца тая адмоўная ў дачыненьні да беларускае нацыянальнае культуры палітыка сучаснага рэжыму.

*Янка ЗАПРУДНІК*

**Ян Станкевіч. Збор твораў у двух тамах.** Менск, выд. "Энцыклапедыкс", 2002 Т. 1, 551ст; т. 2, 587 ст. Выдавецкая рада: Валер Булгакаў, Алег Латышонак, Генадзь Сагановіч, Богуш Станкевіч, Вячка Станкевіч, Юрка Станкевіч, Сяргей Шупа.

Ян Станкевіч 1

Пасьля таго, як зьнік у нашай мове савецкі штамп і казённы дыктат, моўная практыка пазначаная страшэнным разнабоем, які пануе і сёньня. Перад будучай акадэміяй навук Беларусі, калі краіна дачакаецца акадэмічнай свабоды й руплівасьці ўладаў аб нацыянальнай культуры, паўстане манумэнтальнае заданьне ўпарадкаваць і санкцыянаваць нормы нацыянальнае мовы.

А тым часам набіраюцца запасы моваведных матэрыялаў, раскіданых па архівах ды бібліятэчных паліцах. Вельмі важнай зьяваю ў гэтым працэсе назапашваньня сталася публікацыя двутомавіка моваведных працаў Яна (Янкі) Станкевіча.

Цягам больш як паўстагодзьдзя Ян Станкевіч быў рупілвым зьбіральнікам беларускага моўнага багацьця, сталым удзельнікам лігвістычных дыскусыяў і спрэчак, а таксама вострым крытыкам савецкае моўнае палітыкі. Поле ягонага зацікаўленьня распасьціралася вельмі шырока. Ён уздымаў моўную цаліну, інтэнсыўна камэнтаваў нова- й старадрукі, выступаў як рыцар абароны моўнае "чысьціні", якую ён наводзіў зваротам да гістарычных крыніцаў ды рэгіяналізмаў. Станкевіч пакінуў па сабе вялікае багацьце моваведных працаў з арыгінальнымі, часта спрэчнымі, пагдядамі й ацэнкамі.

Валер Булгакаў, рэдактар і аўтар уступу, зазначае: "Асоба і дзейнасьць Яна Станкевіча традыцыйна ўзбуджала супярэчлівыя ацэнкі". Булгакаў разглядае пытаньне актуальнасьці прынцыпаў, якімі карыстаўся моваед у сваіх вывучэньнях. Падсумоўваючы, ён зазначае: "Нягледзячы на ўнівэрсальны характар Станкевічавай мовазнаўчай спадчыны, нельга забываца, што Аўтар быў дзіцём свайго часу. Некаторыя прапанаваныя Аўтарам этымалёгіі на дадзены момант ужо састарэлі, шэраг адстойваных ім інтэрпрэтацыйных мадэляў зрабіўся неактуальным". Тым ня менш, навуковая спадчына Станкевіча захоўвае актуальнасьць. У сёньняшніх "гістарычна іншых абставінах" Булгакаў выказаваецца за "крытычнае пераасэнсаваньне" Станкевічавага "праекту кадыфікацыі беларускае мовы". Ян Станкевіч, адзначае Булгакаў, "быў галоўным апанэнтам моўнага рэжыму, прынятага ў савецкай Беларусі і бяздумна ўспадкаванага Беларусяй незалежнай".

Зьмешчаныя ў двутомавіку творы (больш за 120) апублікаваныя з захаваньнем мовы аўтара, а таксама графікі - некаторыя працы перадрукаваныя лацінкаю. Абодва тамы забясьпечаныя даведкава-камэнтатарскім апаратам ды іменнымі паказьнікамі.

Двутомавік канчаецца біяграфіяй Яна Станкевіча з грунтоўным аналізам ягонай творчай спадчыны пяра Юрася Бушлякова - "Ян Станкевіч як ідэоляг беларускага моўнага пурызму". Бушлякоў прыходзіць да высновы, што "значасьць нарматворчае працы вучонага для стабілізацыі несавецкага стандарту беларускай мовы не падлягае аспрэчваньню" ды што "вучоны змог распрацаваць комплексную нармалізацыйную альтэрнатыву, засьведчыўшы гэтым вялікі й да сёньняшняга дня актуальны патэнцыял творчага беларускага мовазнаўства".

*Янка ЗАПРУДНІК*

## ЖЫВУ, АКТЫЎНІЧАЮ, ДЗЯКУЮ



усім суродзічам і сваякам, што віншавалі зь семдзесят сёмымі ўгодкамі ад нараджэньня; у Тароньце - Надзі Дробінай, Марыі Ганько, Олі Манькоўскай, за сьвяточны "круглы стол" і прыгожа аздоблены зьместам пажаданьняў каравай; моладзі - за навюсенькі "кухонны камбайн" - падарунак для кухні ведамага "Птушатніка зь Верацеяў", каб пякліся беларускія дранікі ў доме на Рывэрдэйл каля ракі Дону й "Чайнатаўн Драконаў".

Усім, што намагаюцца адкінуць спакусу лёгкага жыцьця ў грамадзе "тараканаў у саладусе" жадаю шчасьлівых і радасных Калядаў і Новага году. З Хрыстом, што нараджаецца, і якога славім.

Кастусь АКУЛА



Няхай-жа гэты год станецца годам, у якім зьдзяйсьняюцца мроі й сны ўсіх тых, каго лёс закінуў на далёкую чужыну, а ўсіх тых, што засталіся ў роднай краіне, каб разам зь ёю пакутаваць і цярпець - сны, каб жыць у сваёй незалежнай і вольнай дзяржаве, і ня быць змушанымі гаварыць "тэю моваю, зь якою білі, каталі..."

Мацей СМАРШЧОК



Віншуем усіх беларусаў, што змагаюцца за свабоду Беларусі са сьвятамі Калядаў і Новага году. Жадаем шчасьця і вольнай Беларусі.

Кацярына і Яраслаў ВІНІЦКІЯ



Спадарства СТАГАНОВІЧАЎ сардэчна віншуе ўсіх знаёмых і сваякоў з Новым годам 2003-м і Калядамі й жадаюць вясёлых сьвяткаваньняў.



Архіяпіскап БАПНЦ Юры й сьвятары ў Беларусі вітаюць сваіх прыхільнікаў і вернікаў са сьвятам нараджэньня Хрыстовага.



Надзя НЯПЕЙН віншуе ўсіх суродзічаў з Калядным сьвятамі й жадае здароў'я, радасьці й аптымізму.



Валя, Янка і Міхась ЯНОВІЧ вітаюць знаёмых і суродзічаў са сьвятамі й жадаюць здароў'я і посьпехаў.



Спадарства ГРЫГАЛЬЧЫКАЎ віншуе сваіх сяброў і сваякоў у Вялікай Брытаніі са сьвятамі й жадаюць усяго самага найлепшага.



Марыя і Кастусь ВЕРАБЕЙ сардэчна віншуюць усіх сваіх знаёмых і прыяцеляў з Новым 2003-м годам і Нараджэньнем Хрыстовым. Жадаюць моцнага здароў'я, шчасьця, посьпехаў у працы й вясёлага сьвяточнага настрою на ўвесь надыходзячы год.

# САЎТ РЫВЭРСКІ ЗБОР

Адам Мальдзіс пераслаў ліст - з просьбаю дапамагчы - ад В. Шышанава, які шукае здымкі Здраўнёва. Назва добрая вядомая, пра мястэчка ёсьць кніжачка А. Падліпскага "Здраўнёва: тут жыў Рэпін", Мн., 1995, расейскамоўная кніга Е. Кічынай "Репин и Здравнево: в обретении и разлуке", Віцебск, 1994, згадвалася пра яе й на навуковай канфэрэнцыі "Беларуска-рускае культурнае ўзаемадзеяньне канца XIX-пачатку XX стагодзьдзя", прысьвечанай 150-годзьдзю зь дня нараджэньня І.І.Рэпіна й 100-годзьдзю знаходжаньня мастака ў Беларусі (Віцебск, 1995). Пісаў пра гэтую мясьціну й Юрка Віцьбіч у сваіх нарысах "Тут жыў Рэпін", "Пагібель пагражае Здраўнёву".

Менавіта ў зьвязку з апошнім аўтарам і быў напісаны той ліст-просьба, бо ў архіве Віцьбіча захаваліся здымкі Здраўнёва, здымкі ўнікальныя, як і матарыялы экспэдыцыі па Дзьвіне, як архіўныя здымкі зруйнаваных касьцёлаў і цэркваў, як адбітак пячаткі Ўсяслава, як малюнкі І.Рэпіна і Ю.Пэна, як здымкі беларускіх пісьменьнікаў, тады, у 20-я, яшчэ маладых, яшчэ жывых.

Захавалася ці захоўвалася, сёньня сказаць цяжка. Бо архіў той захоўваецца ў Саўт-Рывэры, пад царквою, сярод іншых, перададзеных туды ў свой час беларусамі - жыхарамі гэтага аднаго з найбеларускіх гарадкоў штату Нью Джэрзі. Але спраўдзіць інфармацыю амаль немагчыма.

Яшчэ ў 1995-м годзе, у часе падрыхтоўкі да друку Віцьбічавых "Антыбальшавіцкіх паўстаньняў", дамовіліся з адказнымі за архіў, што будуць адбітыя копіі з асобных здымкаў для публікацыі - некаторыя нават пашчасьціла патрымаць у руках. Усё засталося на словах.

У 2000-м годзе была зробленая яшчэ адная спроба навязаць кантакты, ужо з новымі кіраўнікамі. Добра гаварылася пра патрэбу ня толькі інвэнтарызацыі (асобныя з архіваў пасьля перадачы ніводнага разу не пераглядаліся), але й паступовай апрацоўкі й публікацыі каштоўнага назапашанага матэрыялу. Выказвалася думка аб патрэбе кнігі, нейкага адмысловага дасьледаваньня, прапаноўваўся нават назоў - "Саўт-Рывэрскі збор". Прычым, не ішло пра грошы, адно пра доступ да архіваў. Зноў-жа, агулам ухваляючы ідэю, клапоцячыся пра лёс дакумэнтаў, паабяцаўшы чаргоры раз адбіткі здымкаў і дакумэнтаў, адказныя за архіў фактычна адмовіліся пусьціць туды, спаслаўшыся на час, занятасьць, патрэбу ўсё абдумаць ды ўзважыць.

Мінула яшчэ два гады. Ніштो не скранулася. І сёньня, змушаны адмовіць у дапамозе сп. Мальдзісу, спадзяюся адно на тое, што некалі нехта будзе дапушчаным да саўт-рывэрскіх скарбаў ды здолее расказаць аб іх сьвету, што тыя здымкі, малюнкі тут не напаткае гаротны лёс арыгіналаў на Бацькаўшчыне.

*Л. ЮРЭВІЧ*

# НІКОДЫМ ЖЫЗЬНЕЎСКІ
## (28.09.1926 - 7.12.2002)



Пасьля цяжкой хваробы пайшоў з жыцьця Нікодым Жызьнеўскі, адзін з выдатнейшых дзеячоў беларускага нацыянальнага руху ў ЗША. Нарадзіўся ён ў сям'і вясковага краўца ў Сабары Дзісьненскага павету на Віцебшчыне. У 1944-м годзе, ратуючыся ад камуністычнай навалы, Нікодыму разам з бацькамі й сястрою Вераю ўдалося пераехаць у Нямеччыну. Там яны жылі ў лягерох ДП і працавалі. Нікодым вучыўся ў беларускай гімназыі, прымаў актыўны ўдзел у скаўцкім руху. У кастрычніку 1949-га году выпала магчымасьць паехаць у эміграцыю ў Амэрыку.

Тут іхняя сям'я пасялілася ў Пэорыі, штат Ілінойс. Нікодым Жызьнеўскі працягваў навучэньне; з 1952-га па 1954-ы годы служыў у войску Злучаных Штатаў падчас Карэйскае вайны. У 1958-м годзе ён скончыў у Пэорыі Брэдлі Ўнівэрсытэт з дыплёмам інжынера-механіка. Па атрыманай спэцыяльнасьці Нікодым Жызьнеўскі пасьпяхова да выхаду на пэнсію працаваў у электронных АВ Dick Company і Video Jet Company. Ягоныя сваякі й знаёмыя неаднаразова адзначалі выключнае ўмельства Нікодыма ў звычайным побыце ўсё рабіць і рамантаваць сваімі рукамі й сваім розумам, незалежна ад складанасьці й адмысловасьці патрэбнае працы.

Ажаніўшыся з Ганнаю Грынько, беларускаю эмігранткаю, што жыла ў Канадзе, Нікодым Жызьнеўскі ў 1959-м годзе пераяжджае ў Чыкага. Тут ён прымае самы актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным руху і ў дзейнасьці беларускіх эміграцкіх арганізацыяў. Засноўвае і ўзначальвае Беларуска-амэрыканскую моладзёвую суполку, актыўна ўдзельнічае ва ўсіх мерапрыемствах Беларускага каардынацыйнага камітэту ў Чыкага і Чыкагскага Камітэту Паняволеных Народаў. На працягу многіх гадоў ён дапамагаў праводзіць агульначыкагскае сьвята "Раство ідзе па зямлі" зь беларускаю ялінкаю і спэцыяльным днём Беларусі, а таксама штогадовы Фэст этнічных майстроў мастацтва і рамёстваў штату Ілінойс. Шмат разоў пасьпяхова рэпрэзэнтаваў чыкагскія беларускія суполкі на традыцыйных Сустрэчах Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

Амаль сорак гадоў - з 1960-га да 1998-ы - Нікодым Жызьнеўскі кіраваў Беларускім радыё ў Чыкага і наваколлі й непасрэдна вёў у эфіры вельмі цікавыя радыёперадачы. У гэты час пасьпяхова раскрыўся яшчэ адзін ягоны талент - талент радыёжурналіста. Нікодым Жызьнеўскі ставіўся да людзей вельмі чула і ўважліва, ён самааддана дапамагаў у самых розных жыцьцёвых справах вельмі многім: ад старэйшых беларускіх сямействаў Бяленісаў і Пануцэвічаў да самых маладых беларусаў, што прыяжджалі з апошнімі хвалямі эміграцыі. Ён быў адным з самых актыўных прыхаджанаў уніяцкае царквы Хрыста-Збаўцы, непасрэдна арганізоўваў й браў ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах рэлігійна-культурнага цэнтру пры гэтай царкве. За сваю грамадзкую дзейнасьць, за чуласьць і самаадданую шчырую дапамогу простым людзям Нікодым Жызьнеўскі быў узнагароджаны на пачатку гэтага году амэрыканскаю тэлекампаніяй NBC-5 ганаровым Jefferson Awards.

Нікодым Жызьнеўскі быў пахаваны ў Чыкага на могілках Irving Park з ганаровым вайсковым цырыманіялам. Да дамавіны быў ускладзены дзяржаўны сьцяг ЗША, які потым быў перададзены сям'і нябожчыка.

У вялікім суме Нікодым пакінуў жонку Ганну, дзьвюх дачок і двух сыноў, семярых унукаў і ўнучак, адну праўнучку, сястру Веру Рамук і яе сямейства, таксама ўсіх, хто ведаў гэтага найцудоўнейшага чалавека. Ён памёр як сапраўдны патрыёт Бацькаўшчыны з болем у сэрцы й з думкаю пра свой народ, з надзеяю на ягонае лепшае і шчасьлівейшае жыцьцё.

Вечная яму памяць!

# НОВАЯ КНІГА




Швэдзкім Інстытутам сумесна з часапісам "ARCHE" й выдавецтвам "Энцыклапедыкс" ў Менску накладам 2000 асобнікаў выдадзеная кніга "Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў".

Аўтар кнігі Андрэй Катлярчук ёсьць прафэсыйным гісторыкам, які жыве ў Швэцыі ды працуе ва ўнівэрсытэце Паўднёвага Стакгольму. Гэта першае выданьне па-беларуску, зробленае пры падрымцы Швэдзкага Інстытуту (дэпартамэнту міністэрства замежных справаў Швэцыі), аўтарытэтнае дзяржаўнае ўстановы, заданьне якой ёсьць пашырэньне ведаў пра Швэцыю й швэдзкую культуру ў сьвеце .

Кніга напісаная на падставе швэдзкіх і беларускіх крыніцаў і мае 296 бачынак, 60 малюнкаў, зь якіх амаль ўсе невядомыя беларускаму чытачу, 7 мапаў, храналягічную табліцу, асобовы й геаграфічны беларуска-швэдзкі паказьнік, змястоўнае ангельскае рэзюмэ. Рэцэнзэнтамі кнігі выступілі вядомыя швэдзкія беларусісты праф. Свэн Густаўсон (унівэрсытэт Упсолы) і доктар Барбара Торнквіст-Плева (унівэрсытэт Люнду).

У працы асьвятляецца гісторыя беларуска-швэдзкіх стасункаў з часоў Вікінгаў да сёньня. Шмат зьвестак ўпершыню робіцца вядомымі беларускаму грамадзтву. Кніга напісаная клясычным правапісам, з нацыянальнага пункту гледжаньня, з выкарыстаньнем лепшых здабыткаў сучаснае заходняе гістарыяграфіі.

Прадмову да кнігі склаў генэральны старшыня Швэдзкага Інстытуту Эрланд Рынгборг (Erland Ringborg), які адзначыў што выданьне падобнага кшталту "дапаможа пабудаваць мост паміж супольным мінулым і супольнай будучыняй Швэцыі й Беларусі."

Набыць кнігу можна ў кнігарнях Менску, Віцебску, Магілёву, Горадні. Замежным пакупнікам трэба звяртацца ў рэдакцыю "ARCHE" (**E-mail:bulhakau@arche.org.by**).



Пётра ГРЫГАЛЬЧЫК і дзеці віншуюць сваю жонку і маці ТАМАРУ зь днём нараджэньня і жадаюць ёй усяго самага найлепшага ў жыцьці.

**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

***Выдае штомесячна: БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е Падпіска $30 на год. Чэкі выпісвайце на BIELARUS***

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

***Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc. Subscription $30 yearly Make checks payable to BIELARUS***

**Рэдагуе калегія.**

*Адказны рэдактар*
***Марат Клакоцкі***

*Падпіска*
***Сяргей Трыгубовіч***

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыялямі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

***Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***



**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветная сеціва:**
www.bielarus.org

***Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэклямадаўца.***

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ананімна | 120 | Л. Гутырчык | 35 | Ю. Андрусышын | 20 | Г. і У. Русак | 20 |
| В. Мельяновіч | 120 | П. Барысік | 30 | Л. Брылеўскі | 20 | М. Сіцько | 20 |
| К. і Я. Вініцкія | 100 | В. Буран | 30 | М. і К. Верабей | 20 | а. К. Стар | 20 |
| З. і В. Кіпель | 100 | І. і І. Грышкевіч | 30 | М. Грынчук | 20 | А. Субота | 20 |
| Ю. Кіпель | 100 | А. Дзянісавец | 30 | М. Грэбень | 20 | А. Сямёнаў | 20 |
| У. Набагез | 100 | В. Кажан | 30 | В. Гурскі | 20 | В. Тур | 20 |
| Г. Бохар-Гайда | 75 | С. Капытка | 30 | Л. Дубовік | 20 | А. і В. Шчэцька | 20 |
| М. Абрамчык | 50 | Ю. Лапіцкі | 30 | Я. Завістовіч | 20 | Я. Шыбут | 20 |
| К. Вайцяхоўскі | 50 | У. Маньдзік | 30 | В. Заморская | 20 | Я. Яновіч | 20 |
| Я. Жучка | 50 | В. Нікіфаровіч | 30 | І. Ільчук | 20 | В. і Ф. Бартуль | 15 |
| А. Занковіч | 50 | А. Пранцэвіч | 30 | Я. Каваленка | 20 | а. Дз. Башко | 15 |
| В. Канарчук | 50 | С. Пятровіч | 30 | А. Колбун | 20 | В. Дубяга | 15 |
| Г. і К. Мярляк | 50 | Т. Стагановіч | 30 | Т. Красоўская | 20 | Я. Кабяка | 15 |
| С. Міровіч | 50 | М. Сьнежка | 30 | У. Кушаль | 20 | Ю. Касьцюкевіч | 15 |
| В. Міцкевіч | 50 | Дз. Хітрыкаў | 30 | К. Маталіцкі | 20 | Л. Літаровіч | 15 |
| А. Орса-Романо | 50 | С. Янкоўскі | 30 | А. Міцкевіч | 20 | М. Прускі | 15 |
| Г. Руднік | 50 | В. Яскевіч | 30 | Ю. Найдзюк | 20 | В. Станкевіч | 15 |
| А. Сёмуха | 50 | Р. Галяк | 25 | Э. Норык | 20 | М. Чупракоў | 15 |
| сп-ва Стагановіч | 50 | У. Ракуць | 25 | Н. Няпейн | 20 | С. Шабовіч | 15 |
| Л. Шурак | 50 | А. Сецька | 25 | Б. Паўк | 20 | А. Шчэрбацэвіч | 15 |
| Уладыка Юры | 50 | К. Юхнавец | 25 | | | | |

**Усім шчыры дзякуй!**